# НАВІНКІ

Серада, 21 кастрычніка 1998 № 6 Кошт свабодны

Калі заўтра вайна... Удары NATO па Беларусі? Цалкам магчыма

Фашысты бяруць у рукі гітары. Куды глядзіць грамадзтва?!

Ангельска-беларускі размоўнік для наведнікаў нашай краіны

Зянон Пазьняк «Хуткая Нага» – правадыр індзейцаў Амэрыкі

«Час біць у рыла-2». Новыя прыгоды Генадзя Савянкова




## Зь юбілеем, БНФ!

У гэтыя кастрычніцкія дні краіна сьвяткуе два значных сьвята - 80 гадавіну нараджэньня камсамолу і 10 гадавіну стварэньня БНФ. Гэтае супадзеньне – не выпадковасьць.

Грамадзтва знаходзіцца ў стане біфуркацыі парадыгмаў мысьленьня, калі адных агентаў дыскурсу зьмяняюць іншыя, дыялектычна насьледуючы грамадзкія функцыі папярэднікаў.

Такім чынам, БНФ, у прыватнасьці ягонае маладзёвае крыло, ёсьць нішто іншае як фактычны нашчадак камсамолу. Каб абгрунтаваць гэты тэзыс, ня трэба далёка хадзіць. Варта разглядаць БНФ праз прызму калектыўных падсьвядомых рэфлексіяў партыйнай субкультуры на рэчаіснасьць і часовай элястычнасьці культурнай прасторы. У гэтым кантэксьце Народны Фронт – шэдэўр бальшавіцкай «новай хвалі». Справа ў тым, што адгалоскі матываў камуністычнай прапаганды засталіся ў нашых мозгах да сёньня. Яны падказваюць і нават навязваюць нам абавязковыя дэкарацыі, неабходныя для рэалізацыі нейкіх сацыяльных акцыяў. Як пісаў яшчэ Гайдэгер, разуменьне рэчаў трэба разумець хутчэй не як дзеяньне суб'ектыўнасьці, але як уключэньне падaньня, у якім праходзіць пэрманэнтнае апасрэдаваньне мінулага і сучаснага. Напрыклад, калі размова ідзе пра рэвалюцыю, у сьвядомасьці аўтаматычна ўзьнікаюць вобразы Смольнага, Аўроры і штурму

*(Працяг на стар. 2)*

## Зь юбілеем...

Зімняга Палацу. Падсьвядомае вызначае «формулу посьпеху» і робіць яе трансфэр на рэчаіснасьць. Як сьледства, БНФ, які займаецца пазапарлямэнцкай (чытай, рэвалюцыйнай) барацьбой, ёсьць так ці йнакш далёкім родзічам РСДРП(б).
Управа на Варвашэні, 8 — гэта Смольны для БНФ.
Увесь вонкавы антураж нагадвае фільм «Ленин в Октябре» або «Человек с ружьем». Як у кінакроніцы 17-га, бязглузда дэфілююць туды-сюды масы, вальяжна смаляць цыгарэты дружыньнікі, усе нечага чакаюць (стрэлу Аўроры?..).
Сьпічы прамоўцаў БНФ могуць быць прысьвечаныя чаму заўгодна, але дыялектычнага марксіцка-ленінскага аптымізму Фронту не пазьбегнуць. Апазыцыйная патэтыка на Беларусі можа быць зразумелай толькі праз мэтафару рэвалюцыі часоў індустрыяльнага грамадзтва. Дайджэст кастрычніцкіх рымэйкаў працягваецца ва ўнутраных структурах БНФ. Зянон Пазьняк - Ленін у эміграцыі. Нават зьнешне ён цягне на сабе ўвесь абоз ленінскага вобразу: непрыкметны лысенькі чалавек у кепчонцы. Ён — абсалют у мікракосмасе БНФ. Ягоныя факсы з-за мяжы пакідаюць у сябраў БНФ такія ж глыбокія псыхалягічныя раны, як у салдата-селяніна, які шукаў кіпяточку ў Смольным, — сустрэча з правадыром пралетарыяту. Пасьля Леніна-Пазьняка ідзе «старая гвардыя»: Вячорка (Сьвярдлоў), Хадыка (Пляханаў), Сіўчык (Троцкі)... У гэтым шэрагу бээнэфаўскіх лідэраў кіраўнік «Маладога фронту» Павал Севярынец - жывая рэінкарнацыя Паўкі Карчагіна. Нельга не пагадзіцца, што паводле герархіі жыцьцёвых прыярытэтаў ён нібы сьпісаны з гайдараўскага пэрсанажу маладога сталініста Цімура. (Сымбалічна, што галоўны дыджэй бэпээсэмаўскага «Радыё Стыль» абраў сабе паганяла «Квакін».)
Такім чынам, уяўленьне аб рэвалюцыі, статут паводзінаў апазыцыянэра, нават унутраная структура дэмакратычных груп несьвядома зьлізаныя з арганізацыйных і эстэтычных канонаў бальшавікоў. Мы маем справу зь вялікім гратэскавым сымулякрам, што завецца апазыцыя. Як суб'ект гісторыі яна — толькі чарговая экранізацыя «Кароткага курсу ВКП(б)». Але зь іншага боку, хіба дэмакратам не супрацьстаіць такі самы сымулякр - улада, якая ёсьць фарсам міталёгіяў сталінізму, або БПСМ - сымулякр брэжнеўшчыны. Ідзе супрацьстаяньне розных гістарычных мадэляў сацыялістычнай сьвядомасьці. Кожная мадэль будуецца паводле прынцыпаў савецкіх часоў: лідэр - партыя — камсамол... Відавочна, што ў шэрагах апазыцыі ёсьць толькі адна групоўка, якая на ўзроўні субкультуры можа выконваць місію «нацыянал-ВЛКСМ». Гэта «Малады Фронт». Пасьля таго як даведзены рытуалізм беларускай палітычнай гульні лягічна паставіць пытаньне: ці ўплывае дубляж бальшавіцкіх структураў на лёс апазыцыі? Можна меркаваць, што так. «Малады фронт» экспануе сабой увесь гістарычны шлях камсамолу ад баявога бязглуздага радыкалізму 18-га году да паступовага ленінскага «Вучыцца, вучыцца і вучыцца!», культурніцкага руху «сінія блузы» і г.д. Апошняе знаходзіць сваё адлюстраваньне ў бясконцых маладафронтаўскіх конкурсах на інтэлект, выездах «у масы» агітбрыгадаў, мастацкіх акцыях і г.д. Незразумелы энтузіязм БНФ да пэтыцыйных паходаў і збораў подпісаў трэба разглядаць як паўторны сэанс шапказакідонскіх кампаніяў 30-ых гадоў кшталту «калектывізацыі» або «індустрыялізацыі». Не хапае толькі плянавых разнарадак з цэнтру і сацыялістычнага спаборніцтва паміж філіяламі Фронту, хто зьбярэ подпісаў больш. Няблага было б і лёзунгаў кшталту «Да 2000 году - кожнаму беларусу грамадзянства БНР!» Наступным гістарычным фрагмэнтам павінен быць «вялікі тэрор» і грандыёзная партыйная чыстка. Хутчэй за ўсё, гэтая фаза таксама ўжо пачалася.
Унутрыфронтаўскія разборкі - гістарычная аналёгія першых рэпрэсіяў супраць «меншавікоў» або «рабочай апазыцыі». Зараз паводле сцэнару павінны выслаць у ссылку Троцкага...

# МІНІ-НАВІНКІ

## Больш саломкі й канапель Радзіме!

Нацыянальнае адзінства, пра якое так доўга марылі нашыя нацыянал-дэмакраты, стала нарэшце відавочным фактам. Іншым чынам нельга пракамэнтаваць вынікі кампаніі па ўборцы ўраджаю. На заклік ураду адгрузіць у закрама Бацькаўшчыны сёлетні ўраджай адгукнуўся ня толькі працоўны люд. Тая частка грамадзтва, што яшчэ ўчора, паддаўшыся заклікам варожых элемэнтаў, пад час уборачнай кампаніі індыфэрэнтна-пасіўна біла баклушы, захапілася вестка мі з палёў.
Гаворка йдзе пра беларускіх наркаманаў. У стане



патрыятычнай ломкі яны вырашылі не адставаць ад калхозьнікаў і правесьці збор макавай саломкі й канапель у самыя рэкордныя тэрміны, зразумела, бяз стратаў. Сьветлагорскія нарыкі ініцыявалі правядзеньне сацыялістычнага спаборніцтва «Канопплі — Радзіме». У самым хуткім часе прапазыцыя знайшла падтрымку ва ўсіх прытонах краіны, і на падпольных дзялянках пачалася сапраўдная страда.
Працавалі ўдзень і ўначы, быццам аддаючы належнае вядомай народнай прымаўцы: «Летні дзень усю зіму корміць». Падводзячы вынікі можна сказаць, што наказ Радзімы выкананы — краіна забясьпечаная травой і саломкай на ўвесь наступны год. А гэта значыць, што будуць зьменшаныя закупы імпартнай наркаты, якія наносілі значны ўдар па валютных запасах краіны.
Вядома, мелі месца некаторыя праблемы: пад час кампаніі назіраліся аўралы, зрывы, былі адстаючыя, але ж былі і перадавікі. Якраз іх і сабраў напрыканцы жніўня зьлёт «Змыўкі 98». Тут былі падведзеныя канчатковыя вынікі спаборніцтва, адбыліся ўзнагароджаньні памятнымі баянамі, лепшыя варшчыкі краіны прадэманстравалі сваё мастацтва. Даўно ўжо людзі ня бачылі такога сьвята.

## Крышталёвая ноч у Менску

Увечары 27 верасьня, калі ўжо пачало цямнець, на вуліцы Захарава ў Менску можна было пабачыць незвычайнае відовішча. Купка наэлектрызаваных алькаголем людзей з ружовымі шарыкамі й партрэтамі Герхарда Шрёдэра літаральна штурмавала нямецкую амбасаду. Нібы матросы Кастрычніка ля Зімняга, яны пералязалі праз плот, высаджвалі дзьверы будынку і з крыкам «гэта ўсё цяпер наша» тырылі маёмасьць амбасады па хатах. Сталы чалавек з тварам былога вайскоўца, які быў сярод іх за галоўнага, спрабаваў унесьці дысцыпліну ў шэрагі пагромшчыкаў. Але хто яго слухаў! Беларускія сацыял-дэмакраты, а гэта былі менавіта яны, уступілі ў законныя правы распараджэньня актывамі нямецкай дзяржавы. Гэта сталася магчымым пасьля перамогі на выбарах у Нямеччыне іхнага ружовага калегі Г.Шрёдэра. Сьвяточны

дэбош працягваўся да паўночы. Кожны атрымаў тое, аб чым марыў на працягу папярэдніх 16 гадоў, калі ў Боне кіравала правацэнтрысцкая кааліцыя ХДС-ХСС. Гэтак, рэдакцыя «Згоды» затарылася навёханькім кампутарам. Не адставала й моладзь. Сяргей Марцалеў і Алесь Колас кожныя паўгадзіны даставалі супрацоўнікаў амбасады сваёй каронная фразай: «Бабка! Водка, закусь - шнэля! Фэрштэйн?». Факсавы апарат на стале не пасьпяваў прыймаць сьвяточныя віншаваньні з Кіева: «Мысьленна з вамі. Карназыцкі унд Прыварнікаў». У самы разгар оргіі нехта ўспомніў пра нямецкі цэнтар на Паўднёвым Захадзе. Асьцерагаючыся мацёрых прайдзісьветаў-самазванцаў з партыі эсдэкаў Шушкевіча, тусоўка хутка пагрузілася на таксі й адправілася на праспэкт «Праўды». Выяжджаючы на плошчу Перамогі, фары сьвяточнай аўтамабільнай працэсіі выхапілі зь цемры жалкую купку людзей, што яўна былі чужымі на гэтым сьвяце жыцьця. Гэта насупраць амбасады беднымі родзічамі стаялі яе ўчарашнія неафіцыйныя гаспадары — хрысьціянскі дэмакрат Грушавы і К°. На вачах у іх былі сьлёзы. Вядома, бо эра Коля ўжо закацілася.

# Сьвіньні бягуць...

Група супрацоўнікаў НДІ тэлебачаньня й жывёлагадоўлі правяла сэрыю цікавых экспэрымэнтаў, вынікі якіх, магчыма, зробяць рэвалюцыю ў айчыннай жывёлагадоўлі. Задачай досьледу было пастаўлена наступнае: як браты нашы меншыя (у прыватнасьці, каровы, сьвіньні) успрымаюць Беларускае Тэлебачаньне. Узяўшы ў якасьці паддасьледных трусоў два статкі кароў і адну сьвінафэрму, навукоўцы абсталявалі кожнае стойла тэлевізарамі «Віцязь» і «Гарызонт». Прычым пульты радыёкіраваньня жывёлам



ня выдалі, каб яны ня мелі магчымасьці пераключацца на расейскія каналы. Быў уведзены адмысловы распарадак дня, паводле якога пасьля невялічкага ранішняга промэнаду і лёгкага сьняданку каровы й сьвіньні вымушаныя былі праглядаць амаль цалкам праграму БТ. (Каб пазьбегнуць ЧП, вырашана было паказваць толькі тыя праграмы, якія былі ў запісу. Прамы эфір быў строга супрацьпаказаны.) Да тушаў жывёлаў прымацавалі датчыкі, якія рэгістравалі нават мінімальныя зьмены іхных біярытмаў.
Вынікі ўражвалі сваёй супярэчлівасьцю. Каровы адказалі на гэтыя навасьці дружным падвышэньнем удоеў у 4 разы з галавы за дзень, прычым утрыманьне халестэрыну ў малацэ панізілася на 3%. Аднак у кожнай трэцяй каровы назіралася растройства страўніка пры праглядзе «Калыханкі». Зусім неадэкватна на гэты экспэрымэнт адрэагавалі сьвіньні. Сьвіньні пабеглі. Прычым пабеглі як мага далей, намагаючыся пакінуць тэрыторыю Рэспублікі Беларусь, што прыносіць масу клопатаў беларускім пагранічнікам. Сьвіньні хутка перасоўваюцца, лёгка пераадольваюць водныя перашкоды, запраста пераскокваюць тры шэрагі дротавых загародак, аказваюць супраціў пры затрыманьні. (Зафіксаваны выпадак гібелі ўкраінскага пагранічніка падчас затрыманьня беларускага парсюка-рэцыдывіста.) Некаторыя асобі ад безвыходнасьці намагаюцца падарожнічаць у кодабах грузавікоў, багажніках «Зубраня» і электрычках на Маладэчна. Такая рэакцыя сьвіньняў на БТ пакуль што ня высьветленая да канца. Відаць сапраўды сьвіньні найбольш блізкія да чалавека па ўзроўні інтэлекту. Досьледы працягваюцца.

# Тэракт у офісе ЗБС

Першыя адзнакі таго, што ў Менску дзейнічае банда дамушнікаў, якая спэцыялізуецца на рабаваньні офісаў дэмакратычных арганізацыяў, зьявіліся яшчэ ўлетку. Тады невядомымі быў зьдейсьнены дзёрзкі налёт на ўстанову «Свабоднага Парфсаюзу Старшыняў Свабодных Прафсаюзаў», наступствам чаго з пакою згаданай арганізацыі назаўсёды зьнік кампутар. Сёньня можна з упэўненасьцю сьцьвярджаць, што за падзеямі на офісе прафсаюзаў стаяць ня нейкія гастралёры або падлеткі, а невядомая група камуністычных фанатыкаў. Доказам таму - апошнія падзеі на офісе ЗБС, адкуль самым таямнічым шляхам зьнік габэлен з выявай Уладзімера Ільіча Леніна. Габэлен быў набыты асабіста лідэрам ЗБС А. Міхалевічам на аўкцыёне Сотбіс за 2110 фунтаў стэрлінгаў і ўяўляў сабою сапраўды антыкварную рэч. Ён быў зроблены слуцкімі ткачыхамі ў 1921-ым годзе ў знак падзякі часткам Чырвонай Арміі за вызваленьне Слуцку ад нацыяналістычных бандытаў. Зразумела, грошы ў ЗБС куры не клююць, і «беднае студэнцтва» магло сабе дазволіць пакласьці гэты шэдэўр мастацтва на падлогу, каб выціраць аб яго свае брудныя боты. Аднак камфортнаму быту сябраў ЗБС хутка прыйшоў канец.
Гэта адбылося 10 кастрычніка. Паводле сьведчаньняў прысутных а 11 гадзіне раніцы ў пакоі Задзіночаньня зьявіўся невядомы інтэлігентнага выгляду хлопчык і на чыстай беларускай лацінцы папрасіў прабачэньня, калі ён трошачкі пачакае спадара Вячорку. У сябраў ЗБС ня ўзьнікла нават нейкай левай думкі, што яны маюць справу з прафэсійным афэрыстам. Яны працягвалі займацца сваёй звычайнай справай: пісаць у поце твару ліпавыя рапарты аб ліпавых сэмінарах і дзяліць пры гэтым шалёныя грошы, атрыманыя за правядзеньне тых самых ліпавых мерапрыемстваў.
Раптам адзін зь сябраў арганізацыі адарваўся ад паперак, каб спытаць, як будзе па-ангельску «дадатковыя выдаткі на туалетную паперу для ўдзельнікаў сэмінару», і заўважыў, што незнаёмы хлопчык зьнік. «Дзівак,» - падумаў сябра ЗБС і прадоўжыў займацца тым, што на Захадзе завецца «your experience in the field of NGO's activity». Яшчэ праз паўгадзіны хваціліся, што разам з ранішнім візытарам зьнік і «дыванок».
Канчатковыя сумневы наконт лёсу габэлену зьняў міжнародны тэлефонны званок. На другім канцы лініі невядомы чалавек хрыплым голасам па складах прачытаў заяву, у якой між іншым падкрэсьлівалася, што адказнасьць за «экспрапрыяцыю габэлену» нясе невядомая левацкая арганізацыя «Ленінскі райкам ЛКСМБ». Зразумела, што шукаць палітычнага бандыта - як ветра ў полі. Хутчэй за ўсё зараз ён ужо лёг на дно там, дзе яго ня можа ўзяць за жабры Інтэрпол - ў Курдыстане альбо Пэру. Аднак гэта ня значыць, што дэмакратычныя актывісты могуць спаць спакойна. Трэба памятаць словы амэрыканскага сэнатара МакКартні: «Камуністы - яны паўсюль!».



YANKEES GO

# калі заўтра ў вайна

Працягвае абвастрацца сытуацыя вакол Косава, пагражаючы перарасьці ў крывавы ваенны канфлікт. Ужо сёньня відавочна, што маштабы балканскага канфлікту выйдуць за межы лякальнага супрацьстаяньня Югаславіі й ЗША...

## Удар NATO па Беларусі? Цалкам магчыма...

«У выпадку натаўскай агрэсіі супраць Югаславіі Беларусь акажа ёй любую вайсковую дапамогу, якую яна захоча!..» - менавіта так адрэагаваў Прэзыдэнт РБ на намеры натаўскіх генэралаў бамбіць сербскія пазыцыі ў Косава. Рашучыя заявы беларускага кіраўніцтва аб падтрымцы сербскіх братоў-славянаў у канфлікце з NATO, не пакідаюць ніякага сумневу ў тым, што вайна абміне й нашую старонку. Як мяркуе ўсё больш аналітыкаў, узброеная дапамога Мілошавічу з боку ўраду РБ справакуе NATO нанесьці ракетныя ўдары й па Беларусі. Таму не выклікае зьдзіўленьня той факт, што напярэдадні вераломнага ўварваньня ў Югаславію ў штабе Групоўкі войскаў NATO ў Эўропе ўжо ідуць распрацоўкі магчымых сцэнараў ваеннай кампаніі NATO супраць Беларусі.

Распрацоўка пляну нападу, які атрымаў кодавую назву «Вітаўт Вялікі», праводзіцца ў цесным супрацоўніцтве з замежнымі беларускімі рэнэ-гацкімі цэнтрамі: «Радай БНР», «Упраўай БНФ у выгнаньні» і інш. Згодна гэтаму пляну мяркуецца нанесьці масіраваны ракетны ўдар па буйных беларускіх гарадах, пасьля чаго шматтысячны дэсант амэрыканскіх парашутыстаў давершаць справу ўсталяваньня ў Беларусі канстытуцыйнага парадку ўзору 1994 году. Наперадзе пераможцаў на белым кані ў вялікай белай папасе зь вялікай белай шабляй будзе ехаць Сам Зянон Пазьняк. Натуральна, ахвярамі гэтай міратворчай акцыі могуць стацца ня толькі высокапастаўленыя асобы адміністрацыі, але й звычайныя апазыцыянэры, якія моляцца на NATO і чакаюць ад Захаду чаго заўгодна, але не такой падлянкі. У стане апазыцыі пачаўся быў пярэпалах. Сапраўды, хто дасьць гарантыі, што наносячы ўдар па Акадэміі міліцыі пілёты амэрыканскіх ВПС пад гарачую руку не разбамбяць суседні офіс БНФ. Спачатку заходнія саюзьнікі ніяк не рэагавалі на «ізьмены» беларускай апазыцыі. Адзін з прадстаўнікоў адміністрацыі Клінтана нават заявіў Навумчыку: «Мы вас парадзілі, мы вас і заб'ем!».

Але неўзабаве дэмакратаў супакоілі: амэрыканскія лётчыкі, выкарыстоўваючы супэрсучасную тэхніку распазнаваньня, ня будуць наносіць ракетна-бомбавых удараў па тых дамах, дзе датчыкі зафіксуюць наяўнасьць апазыцыйнай сымболікі. Кожнаму актывісту апазыцыі бліжэйшым часам будзе выдадзены таксама, «на ўсякі пажарны», вялікі партрэт прэзыдэнта Клінтана, які рэкамэндуецца выстаўляць у вакно пры першых гуках пікіруючых самалётаў. Карыстаючыся часовай няпэўнасьцю некаторых апазыцыянэраў, ва Ўправе БНФ знайшліся нейкія прайдзісьветы, якія за памяркоўную плату могуць закадзіраваць усіх жадаючых ад шальных амэрыканскіх куляў.

Між тым, Вашынгтон, па ўсім відаць, сур'ёзна рыхтуецца да акупацыі нашай краіны: аддрукаваная партыя акупацыйных амэрыканскіх даляраў, якія будуць абменьвацца на беларускія рублі па курсу 1:1; выдадзены ўказ аб прыраўнаньні грамадзянаў БНР да катэгорыі «амэрыкэн піпл». Генэральным камісарам акупаванай Беларусі Біл Клінтан прызначыў свайго нядаўняга суперніка за прэзыдэнцкае крэсла лідэра рэспубліканцаў Робэрта Доўла.



| ENACTMENT about limitation of walking of an evening | РАСПАРАДЖЭНЬНЕ аб агранічэньні хаджэньня вячэрняю парою |
|---|---|
| With consent of Eastern Region's State Commissar I enact to limit time of walking in the towns of the General District of Belarus from dusk till dawn. | Са згодай Дзяржаўнага Камісара Ўсходняга Абшару пастанаўляю агранічыць час хаджэньня ў гарадах Генэральнай Акругі Беларусі ад сьцямненьня да разьвідненьня. |
| Civilians who are met in the street during the limited time without a valid cause will be immediately shooted in the act. | Асобы цывільныя, якія ў агранічаным часе без уважлівай прычыны будуць спатканыя на вуліцы, будуць зараз-жа на месцы расстраляны. |
| For those who go in the theater or other cultural institutions the separate enactment will be given. | Для наведваючых тэатр і іншыя культурныя ўстановы выйдзе асобнае распараджэньне. |
| This enactment comes into force November 1, 1998. | Гэта распараджэньне ўваходзіць у сілу ад 1 лістапада 1998 г. |
| *Miensk, October 30, 1998.* | *Менск, 30 кастрычніка 1998 г.* |
| General Commissar of Belarus ROBERT DAWL | Генэральны Камісар Беларусі РОБЭРТ ДОЎЛ |

# «Вітаем амэрыканскіх вызваліцеляў!»

Беларуская апазыцыя пачала актыўную падрыхтоўку да сустрэчы новага дэмакратычнага парадку, намагаючыся такім чынам паспрыяць дзейнасьці будучай акупацыйнай адміністрацыі. Ужо аддрукаваныя й разасланыя запрашэньні на Парад Перамогі, які адбудзецца ў Менску на плошчы Незалежнасьці 7-га лістападу.

Наваяўленыя калябаранты на чале зь вядомым буржуазным нацыяналістам Алесем Мікусам распачалі кампанію запісу ў паліцыю й «Беларускую Краевую Абарону». Мікусам створаная адмысловая камісія, якая складае сьпісы моладзі для адпраўкі на прымусовыя работы ў Амэрыку. У гэтыя сьпісы ўжо залічаныя камуністы, анархісты і, на ўсялякі выпадак, яўрэі. Пад Менскам намечанае месца для будаўніцтва канцлягеру для асабліва небясьпечных элемэнтаў. Першым у вязьні Мікус запісаў рэдактара бюлетэню «Антыфашык» Лёліка Ушкіна.

А ў «Маладым Фронце» тым часам быў праведзены конкурс «Міс Малады Фронт», пераможца якога мусіла заняць ганаровую пасаду горнічнай Генэральнага камісара Беларусі Робэрта Доўла. Перамагла Наташа Маковік, але Вашынгтон забракаваў яе кандыдатуру й прасіў не прымаць у горнічныя дзяўчын з прозьвішчамі кшталту Мазанік, Маковік, Шыряева, Салутанчык і г.д.

У чаканьні новых гаспадароў заварушылася й недабітая беларуская шляхта, якая патрабуе вяртаньня вотчынных земляў і прыгонных сялянаў. Гэтак, маркіз Раман фон Кавальчук накіраваў прашэньне на імя Доўла, патрабуючы вярнуць беглага халопа Пашку Севярынца, прапрадзед якога быў прыгонным географам у пана Вільгельма фон Кавальчука. Такім чынам, апазыцыя ахопленая такім бурным патрыятычным пад'ёмам, які не назіраўся тут з часоў наступу кайзэраўскіх войскаў у 1918 годзе.

**ПРАГРАМКА ПАРАДУ ПЕРАМОГІ**
**на Плошчы Незалежнасьці**

8.15 Сп. Зянона Пазьняка ўрачыста падсаджваюць на белага каня. Асыстуе пераможца конкурсу «Першамай з Пазьняком» сп. Цімох Дранчук.

9.05 Сп. Зянону Пазьняку ўрачыста надзяваюць вялікую белую папаху.

9.10 Сп. Зянону Пазьняку ўрачыста падаюць вялікую белую шаблю.

9.15 Сп. Зянон Пазьняк самастойна едзе на белым кані перад шыхтамі паліцыі. Белага каня вядзе дыплямант конкурсу «Бел-чырвона-белы стралец» сп. Яўген Скочка.

9.25 Сп. Зянон Пазьняк горача вітае паліцаеў і віншуе іх зь перамогай Дэмакратыі і Рынкавай Эканомікі.

10.02 Паліцаі горача вітаюць Сп. Зянона Пазьняка і віншуюць яго зь перамогай Дэмакратыі і Рынкавай Эканомікі.

10.05 Сп. Зянон Пазьняк пад'яжджае да цэнтральнай трыбуны на плошчы Незалежнасьці.

10.20 Шчасьлівы народ сустракае Сп. Зянона Пазьняка радаснымі воклічамі й бурнымі апладысмэнтамі.

10.40 Сп. Зянон Пазьняк урачыста злазіць зь белага каня. Асыстуе пераможца алімпіяды Маладога Фронту па бабсьлею сп.Віталь Рымашэўскі.

11.20 Сп. Зянон Пазьняк урачыста зачытвае Сьвяточны Факс Беларускаму Народу ад Сп. Зянона Пазьняка.

14.00 Бурныя і працяглыя апладысмэнты. Сяброўкі Маладога Фронту падбягаюць да цэнтральнай трыбуны і ўручаюць кветкі Сп. Зянону Пазьняку.

15.00 Пачатак сьвяточнага банкету й народных гуляньняў. Запрашаюцца грамадзяне БНР.

**ЗЬНІШЧАЙЦЕ БАНДЫТАЎ**

**ды іхных прыхільнікаў паміж Вамі, бо яны найбольш шкодзяць якраз Вам!**



**Хто не перашкаджае ў дзейнасьці бандытаў — той іхны супольнік!**

**Аб усіх падазроных людзях і выпадках заяўляйце ў найбліжэйшы амэрыканскі урад, вайсковым уладам ці паліцыі.**

# «Дамо адпор вераломнаму агрэсару...»

«Увага, увага ад бэпээсэмаўскага інформбюро гаворыць Радыё Стыль. Перадаем апошнія паведамленьні з фронту. За мінулыя суткі пасьля жорсткіх і кравапралітных баёў нашы войскі часова пакінулі наступныя гарады...» Такой будзе цяпер застаўка папулярнага сярод моладзі радыёстанцыі «Радыё Стыль».

Справа ў тым, што БПСМ, чыім ведамасным каналам зьяўляецца вышэй указаная радыёстанцыя, зьбіраецца разьвярнуць максымальна шырокае супраціўленьне амэрыканска-дэмакратычным захопнікам. З гэтай мэтай ужо зараз ва ўсіх структурах патрыятычнага саюзу праходзяць трэнінгі па асновах падпольнай дзейнасьці. Згодна сакрэтным інструкцыям частка сяброў Саюзу застанецца, каб узначаліць шырокі рух маладзёвага адпору «Малады Фронт імя Колі Гойшыка». Дзейнасьць гэтай арганізацыі будзе складацца з антыўрадавых вулічных акцыяў, пікетаў, арганізацыі культурных шоў кшталту «Савецкая беларушчына» і г.д.

Другая, больш шматлікая група БПСМ адправіцца ў эвакуацыю. Наконт гэтага ўжо складзены сьпіс актывістаў, якім належыць выехаць у тыл. Чамусьці гэты ліст складзены ў зваротным алфавітным парадку й пачынаецца на літару «Я».

Поўным ходам ідзе праца па стварэньню штабу партызанскага супраціўленьня, што будзе знаходзіцца ў Ташкенце і ўзначальвацца сёньняшнім кіраўніцтвам БПСМ. Усе памяшканьні, якія належалі БПСМ зараз мініруюцца й будуць узарваныя з набліжэньнем ворага. Створаная франтавая трупа артыстаў - сябраў БПСМ на чале зь вядомым кампазытарам Ханком, якая, дарэчы, ужо зрабіла сабе браню ад прызыву на фронт.

З ініцыятывы арганізацыі маладых патрыётаў пачалася агульнанацыянальная кампанія па збору пустых бутэлек, што ў пэрспэктыве могуць быць выкарастаны як «кактэйлі Молатава» супраць танкаў і самалётаў. Ініцыятыва па збору шклатары выклікала пратэсты з боку бамжоў і бабулек, якіх адразу запісалі ў шэраг патэнцыйных здраднікаў Радзіме. Здаецца, што людзі Янчэўскага настроеныя сапраўды сур'ёзна. Пра гэта сьведчыць той факт, што ў ЦК БПСМ ужо сёньня пачалася падрыхтоўка шматтомніку «Бэпээсэмаўцы-героі», на старонках якога будзе падрабязна распавядацца пра жыццёвы шлях сяброў БПСМ, іх гераічныя ўчынкі ў барацьбе супраць ворага. Ужо падпісаны да друку 30-ы том зборніку, зноў жа на містычную літару «Я».



Бардаўскі фэст «Гэта мы!» выліўся ў вялікую дэманстрацыю сэксу, гвалту й прапаганды нездаровага ладу жыцьця...

# гэта яны!

Гітарны рыф, ад якога лопаюцца барабанныя перапонкі, брудныя тэксты выканаўцаў, якія прапагандуюць гвалт і сэкс, перакошаныя твары падлеткаў пад кайфам, дэбош у залі... Пазналі? Так, гэта тыповыя адзнакі бардаўскіх фэстаў. Зразумела, што акрамя галаўнога болю ў сталічнай міліцыі такога кшталту мерапрыемствы нічога не выклікаюць. Як сказаў у інтэрвію нашаму выданьню супрацоўнік РАУСу, які пажадаў застацца невядомым, будзь ягоная воля, ён бы даўно ўжо забараніў гэтую бардаўскую какафонію, а яе выканаўцаў выслаў бы на 101-ы кілямэтар за лайдацтва. Мы таксама мяркуем, што зь нездаровым захапленьнем сучаснай моладзі бардаўскай песьняй трэба змагацца загартаваным жалезам. Хіба бардаманія ня ёсьць ідэалягічнай дывэрсіяй Захаду, якая, дзякуючы сур'ёзным праколам у сыстэме выхаваньня, уплывае на несфармаваную псыхіку падлеткаў. Страшна глядзець, што за асобы стаяць кумірамі моладзі. Успомнім, прыкладам, лёс менскага барда Сержа Жука-Мінскевіча, які дапіўся да «чырвоных вярблюдаў». Ад захапленьня бардамі ёсьць толькі адзін шлях, этапы якога — дурная нацыяналістычная кампанія ў падваротнях, лайдацтва, першая зацяжка цыгарэтай і г.д. Як сьведчыць статыстыка, кожны другі наркаман у Беларускім Хельсінскім Камітэце слухае бардаў. Праблема бардаманіі безумоўна патрабуе неадкладных крокаў. Каб вырваць зь цяскоў вуліцы цяжкіх падлеткаў, улады апошнім часам нават ідуць на тое, каб часткова легалізаваць бардаўскую субкультуру. У рамках гэтай стратэгіі рэабілітацыі тры гады таму назад пачаўся нетрадыцыйны экспэрымэнт. Валанцёры сталічнага выканкаму пачалі працаваць з групоўкай ЗБС, што акупавала падвалы й цеплавузлы на вуліцы Дарашэвіча. Натуральна, што сярод антысацыяльных сябраў ЗБС як нідзе шмат адшчапенцаў-бардаманаў. Каб вярнуць у грамадзтва зэбэзсаўцаў, апошнім нават было дазволена штогод праводзіць традыцыйныя бардаўскія фэсты. Зразумела, што іміджу Менску як культурнай сталіцы гэта ніяк не спрыяла. Хіба можа высокі статус «эўрапейскага гораду», дзе ёсьць свой помнік Леніну і палац Рэспублікі, мець нешта агульнае з маргіналамі-бардамі. Але ж на думку бацькоў гораду, разгромленая заля й п'яная разборка паміж прыхільнікамі Касі й Алеся Камоцкіх раз на год, абыходзяцца гораду таньней за сьцены будынкаў, размаляваныя безгустоўным тынэйджэрскім графіці «Бартосік жывы!», «Мы - гэта Мельнікаў. Мельнікаў - гэта мы!», « Курт Шалкевіч forewer!»... На 20-21 верасьня гэтага году быў прызначаны чарговы бардаўскі фэст «Гэта Мы». Супрацоўнікі міліцыі, якім два папярэднія мерапрыемствы каштавалі пяцёх «Дзён дэсантніка», загадзя пачалі падрыхтоўку да беларускага «бардаўскага Вудстоку». Сытуацыя ўскладнялася тым фактам, што ў 200 мэтрах ад Палацу Прафсаюзаў, дзе былі павінны бяснавацца барды, прыхільнікі Black Metall зьбіраліся правесьці свой «вечаровы ранішнік». Мэталісты арэндавалі памяшканьне цырку, каб мірна сабрацца і ў коле аднадумцаў паслухаць вядомы мэталічны вакальна-інструмэнтальны ансамбаль з Амэрыкі «Cannibal Corpse». Група «Cannibal Corpse» склалася ў 1982 годзе ў ЗША як група лепшых скаўтаў-баптыстаў. У тэкстах музыканты праз шокавую тэрапію словаў выклікаюць антыпатыю да антысацыяльных зьяваў, сьпяваючы пра «гніль», «крывавы сэкс», мерцьвякоў... Адначасова, каб данесьці да гледачоў увесь мэтафізычны жах жыцьця бяз Бога й веры, прама на сцэне пажыраюць мяса трупаў і г.д. Безумоўна, што «гастранамічная» оргія на сцэне - гэта, між іншым, сымбалічны намёк на віскулёўскі саміт, дзе ў свой час купка нацыяналістаў таксама у крывавым імпэце дзялілі паміж сабой яшчэ цёплы труп Савецкага Саюзу. Ня дзіва, што з такім высокім гуманістычным іміджам «Cannibal Corpse» можа разьлічваць на ўвагу самай шырокай публікі і мае рэпутацыю групы для ўсёй сям'і. Як сьледзтва, яшчэ за месяц да выступу замежнага ВІА ўсе квіткі былі распаўсюджаны паміж калектывамі дзіцячых садкоў і малодшых клясаў. У прызначаны час групкі дзетак у сьвежавысьціраных сьвяточных касухах, пастроеныя ў пары, пачалі рухацца да будынку цырку, гучна сьпяваючы хрысьціянскія гімны. Але тут іх ужо чакалі акустычныя чалавекаленавісьнікі з Палацу Прафсаюзаў, падагрэтыя алькаголем і акордамі Бартосіка, Сідарук і супругаў Палынскіх. Нацыяналісты-бардаманы пачалі кідаць бутэлькі ў прысутных. Потым нехта з бардаманаў зароў: «Пі...ец гапаце!», і ў справу пайшлі кулакі. Жорсткасьць прыхільнікаў Шалкевіча ня ведала межаў. Купалаўскі сквэр ператварыўся ў сапраўднае поле паляваньня за хайрастымі падлеткамі. Бедных мэталістаў лавілі, мачылі гітарамі, душылі струнамі, стрыглі ім патлы пад Шалкевіча. Беспрэдзелу паклала край толькі апэратыўная навіна, што ў «Цэнтральны» прывезьлі таннае «Старажытнае». Толькі тады арда сымпатыкаў вершаванага радку, пакладзенага на музыку, перакачавала на Кастрычніцкую плошчу. Бардаўская вакханалія зацягнулася далёка за поўнач. Наступным днём орган дэклясаваных нацыяналістаў «Беларуская маладзёжная» не пасаромеўся назваць адбыўшыйся 20-21 кастрычніка шабаш «лепшым беларускім культурніцкім праектам году». Аўтар матэрыялу, нехта Сяргей Пульша (цікава, колькі яму плоцяць за хлусьню?), ледзь не захлябнуўся ад эпітэтаў на адрас антыграмадзкіх элемэнтаў: «ласкавая і пяшчотная музыка», «лірыка», «музыка, што кранае душу» і г.д. Напрыканцы артыкулу прадажны журналіст дзеліцца ўпэўненасьцю, што Менск страсянецца яшчэ ня раз ад бардаўскіх акордаў. Крый Божа ад такой будычыні. Хіба мала ў нас здаровай беларускай моладзі, што слухае прыстойныя, любімыя ў народзе гурты кшталту «Exhumator», «Patalogist Department» ды інш. Вось якія мэлёдыі трэба папулярызаваць, а іх выканаўцаў ставіць у маральна-эстэтычны прыклад. ●



«Забі сваю сям'ю!..» — сьпявае ў сваёй песьні Віктар Шалкевіч

# Замах на ды-джэя Беларушчыны

Іржавай арматурай па галаве, з усёй сілы — вось так спрабавалі расправіцца бандыты зь вядомым шоўмэнам, улюбёнцам беларускіх тэлегледачоў, Паўлам Севярынцам. Інцыдэнт адбыўся ў пад'езьдзе офісу БНФ, куды Павал вяртаўся пасьля эфірнага запісу свайго шоў «Беларушчына». Дзякуй Богу, Павал застаўся жывы, але замах выклікаў сапраўднае абурэньне ўсяго беларускага грамадзтва. Ні для кога не сакрэт, што шоў «Беларушчына» больш чым проста шоў для звычайных людзей. Вечарамі шточацьвер, калі шоў ідзе ў эфір, усе хатнія гаспадыні й пэнсіянэры быццам па камандзе зьбіраюцца вакол блакітных экранаў у чаканьні любімай праграмы. Роўна а сёмай на экране TV зьявіцца застаўка тэлекампаніі ПІДр (Пазьняк і другія), і ў эфір ідзе карцінка са студыі, дзе публіка ўжо заходзіцца ў экстазе апладысмэнтаў, Дзяржаўны Аркестар Беларускай Народнай Рэспублікі пад кіраўніцтвам Гюнтэра лабае папулярны джазавы матыў «Фронт, Фронт, Фронт», а з паўцемры задніка сцэны ў сьвятле пражэктараў і атачэньні паўголых дзевак у бел-чырвона-белых пэньюарах, зьяўляецца кумір тэлегледачоў вядучы Павал Севярынец. Шоў «Беларушчына» зьявілася адносна нядаўна на сатэлітным канале «Віцебск-сат» і хутка заваявала шырокую папулярнасьць. Складнікі яго посьпеху - добра прадуманая канцэпцыя, салідныя спонсары і асоба шоўмэна. Пры гэтым трэба адзначыць, што «ШоБла» - інтэлектуальная перадача, малазразумелая для простых неадукаваных людзей.

Пагадзіцеся, мала хто можа дакладна адказаць на пытаньне, якая гара ў Беларусі самая вялікая, калі быў заснаваны Менск, і ўжо напэўна ніхто ня ведае, што сказаў Зянон Пазьняк на сэсіі Вярхоўнага Савету 1995г. Нават калі Вы пройдзеце сіта адборачных тураў і выйдзеце на супэрпрыз з надзеяй выйграць рамантычнае падарожжа ў Варшаву зь вядучым праграмы, вас чакае брутальны аблом. Будзь нават у вас сем пядзяў у лбе, вам ніколі ня прыйдзе ў галаву, хто прывёў Беларусь да незалежнасьці ў 1991-ым годзе, нягледзячы на тое, што шуканае слова складаецца ўсяго з трох літараў. Але тут і зарыты сабака. Калі вам патрэбныя лёгкія перамогі ў інтэлектуальных віктарынах, ніхто не забараняе пераключыцца на канал БТ, дзе па нядзелях круцяць шоў «Любоў да Прэзыдэнта зь першага погляду», і, як арэшкі, шчоўкаць загадкі шоўмэна Зімоўскага: хто самы праславянскі палітык ва Ўсходняй Эўропе, хто праводзіць самы правільны эканамічны курс, хто самы, самы, самы... Адкуль жа тады пры такой усенароднай любові ўзяліся ў Севярынца ворагі? У каго паднялася рука на беларускага Гольдштака. Як піша папулярная газэта «СПИД-Info», у справе з замахам на Севярынца хутчэй за ўсё замяшаныя шалёныя грошы.



Ні для каго не сакрэт, што спансараваў шоў «Беларушчына» нячысты на руку прадʼюсэр Супрановіч. Ён навязваў Севярынцу калдырныя рэклямныя ролікі, ад якіх інтэлектуальная шоў шмат чаго губляла. Паводле кантракту вядучаму кожныя 5-7 хвілінаў даводзілася прыпыняць ход перадачы і з фальшывай мінай на твары абʼяўляць «А зараз рэклямная паўза». Пасьля гэтага з экрану на гледачоў ліўся бруднейшы каскад рэклямы самых ідыёцкіх спажывецкіх тавараў: зубная паста «Шара-мэд», піва «Рэд быкаў», махорка «Вячорка», шакалад «Сорас – шчодрая душа»...

Севярынец доўга йшоў на паваду ў беспрынцыпнага камэрсанта, але і яго цярпеньне мела маральны ліміт. Канфлікт разразіўся пасьля таго, як Супрановіч вырашыў працягнуць на экран рэкляму музычных пракладак «Музычная альтэрнатыва».

Будзь на месцы Паўла такі ж беспрынцыпны прайдзісьвет як вядучы місіянэрскай праграмы «Хрысьціянска-Сацыяльны Каламбур» айцец Кірыл Ігнацік, ніякіх праблемаў у Супрановіча безумоўна не было б. Але Севярынец — гэта іншая справа. Сюжэт рэклямнага ролiку проста ня мог не пакрыўдзіць такога інтэлігентнага чалавека як Павал. Ён паставіў пытаньне рубам: альбо ён сыходзіць, альбо Супрановіч адмаўляецца ад сваёй дурацкай ідэі з пракладкамі. Супрановіч, для якога чалавечая мараль вымяраецца сумай купюраў з выявай амэрыканскіх прэзыдэнтаў, хутка зразумеў, што нумар ня пройдзе. Што было далей, пакуль сказаць цяжка. Хутчэй за ўсё паміж кампаньёнамі пачаўся канфлікт, і «новы беларус» вырашыў прыбраць наравістага Пашку. Маючы шырокія сувязі ў крымінальным сьвеце, Супрановічу нічога не каштавала выпісаць сабе кілера і замовіць яму забойства Паўла. Як, колькі й чым расплачваўся Супрановіч, які мае модў плаціць касэтамі «Крамы» й «Новага Неба» – загадка. Поўная праўда пра падзеі высьветліцца пасьля таго, як Севярынец прыйдзе ў сябе. Зараз ён знаходзіцца ў ведамаснай клініцы БНФ, дзе бесьперапынна паўтарае ў трызьненьні - «гара Сьвятая. 382 мэтры ў вышыню»... ●

# ENGLISH-BELARUSIAN PHRASE-BOOK

Усё больш і больш замежных грамадзянаў імкнуцца наведаць нашую краіну, каб на ўласныя вочы пераканацца, ці сапраўды ў Беларусі гэтак дрэнна, як гавораць тамтэйшыя беларускія апазыцыянэры. Вядома, узьнікаюць праблемы камунікацыі, якія ня могуць вырашыць звычайныя небеларуска-беларускія размоўнікі. Каб аблегчыць побыт замежных турыстаў у Беларусі, вядомы мовазнаўца-самародак Вінцук Вячорка склаў адмысловы «Ангельска-беларускі размоўнік», які хутка выйдзе з друку пры дапамозе Фонду «Супольнасьць».
Спадар Вячорка велікадушна за памяркоўную плату перадаў нам фрагмэнты гэтага размоўніку са спадзяваньнем, што сярод чытачоў нашай газэты знойдуцца тыя, хто яшчэ ня вельмі добра валодае беларускай мовай.
Друкуецца на правах рэклямы.



## AT THE RAILWAY STATION/ AIRPORT

## НА ВАКЗАЛЕ/У АЭРАПОРЦЕ

| | |
|---|---|
| Where are human rights violated near here? | Дзе тут у вас парушаюцца правы чалавека? [dzye tut u vas parushayutsa pravy chalavyeka] |
| Where can I meet legendary Miron? | Дзе я магу сустрэцца зь легендарным Міронам? [dzye ya mahu sustretsa z lehendarnym mironam] |
| Where can I exchange currency? | Дзе можна зьмяніць валюту? [dzye mozhna zmyanits valutu] |
| How much does an American dollar cost? | Які курс даляру да беларускага рубля? [yaki kurs dalyaru da byelaruskaha rublya] |
| And what about «black market»? | А паводле чорнага рынку? [a pavodlye chornaha rynku] |
| How to reach the headquarters of the Belarusian Popular Front? Where is the Uprava? | Як прайсьці ў офіс Беларускага Народнага Фронту? Дзе Ўправа? [yak praystsi u ofis byelaruskaha narodnaha frontu] [dzye uprava] |
| Where can I sign Charter-97? | Дзе можна падпісаць Хартыю-97? [dzye mozhna padpisats khartyyu dzvyanosta syem] |
| How to get to Drazdy? | Як праехаць у Драздзы? [yak prayekhats u drazdy] |



## AT THE UPRAVA OF BNF

## НА ЎПРАВЕ БНФ

| | |
|---|---|
| Long life to Belarus! No, no, I have no grants with me! | «Жыве Беларусь!» Не-не, грантаў з сабой няма! [zhyvye byelarus] [nye nye hrantau s saboy nyama] |
| What time does the demonstration/picket-line/street-action/show «Belarushchyna» start? | А каторай гадзіне пачынаецца дэманстрацыя /пікет/ акцыя/шоў «Беларушчына»? [a katoray hadzinye pachynayetsa demanstratsyya/piket/ aktsyya/shou byelarushchyna] |
| Where is the meeting point? | Дзе месца збору? [dzye myestsa zboru] |
| Mr.Skochka, may I fire your gun? | Спадар Скочка, ці можна папуляць з Вашай вінтоўкі? [spadar skochka tsi mozhna papulyats z vashay vintouki] |
| What is written in this leaflet? | Што напісана ў гэтай улётцы? [shto napisana u hetay ulyotsy] |
| Please show me that Siuchyk who I should avoid. | Пакажыце, а дзе Сіўчык, якога трэба сьцерагчыся? [pakazhytsye a dzye siuchyk yakoha treba stsyerahchysya] |
| Tell me if I was born in South Dakota can I join the citizens of BNR? | Скажыце, калі я нарадзіўся ў штаце Паўднёвая Дакота, я магу запісацца ў грамадзяне БНР? [skazhytsye kali ya naradziusya u shtatsye paudnyovaya dakota ya mahu zapisatsa u hramadzyanye beneer] |
| Mr.Supranovich, how much does this brunch/cassette/ flag cost? | Спадар Супрановіч, колькі каштуе гэты значак/ касэта/сьцяжок? [spadar supranovich kolki kashtuye hety znachak/ kaseta/stsyazhok] |




## ON THE DEMONSTRATON

## НА ДЭМАНСТРАЦЫІ

| | |
|---|---|
| Long life to Belarus! | Жыве Беларусь! [zhyvye byelarus] |
| Mill Luka into flour! | Луку на муку! [luku na muku] |

| | |
|---|---|
| Let it be, Constitution-94! | Даеш Канстытуцыю-94! [dayesh kanstytutsyyu dzvyanosta chatyry] |
| Freedom for Sevyarynets/ Sharamet/Shchukin! | Свабоду Севярынцу/ Шарамету/Шчукіну! [svabodu syevyaryntsu/ sharamyetu/shchukinu] |
| Belarus into Europe, Lukashenka into!.. | Беларусь у Эўропу! Лукашэнку ў!.. [byelarus u europu lukashenku u] |
| Where are you leading me? | Куды вы мяне цягнеце?! [kudy vy myanye tsyahnyetsye] |



**IN A LOCAL OFFICE OF THE POLICE**

**У АПОРНЫМ ПУНКЦЕ МІЛІЦЫІ**

| | |
|---|---|
| Where am I? | Дзе я? [dzye ya] |
| I'm a foreign citizen! I demand to call the ambassador! | Я інастранны гражданін! Я трэбую пасла! [ya inastrany hrazhdanin] [ya trebuyu pasla] |
| I was walking to the National Opera and Ballet theatre. | Шол сібе міма ў Нацыянальны ціятар опэры і балета! [shol sibye mima u natsyyanalny tsiyatar opery i baleta] |
| I didn't shout anything, I didn't fetch anything. I didn't have any whistle/ flag/placard. | Нічыво не крычаў, нічыво ня нёс. У мяне не было нікакова сьвістка/флага/плаката. [nichyvo nye krychau nichyvo nya nyos] [u myanye nye bylo nikakova svistka/flaha/ plakata] |
| I don't know Skochka/ Dranchuk/Siuchyk! | Ня знаю я нікакова Скочку/ Дранчука/Сіўчыка! [nya znayu ya nikakova skochku/dranchuka/ siuchyka] |
| Why? I always liked Lukashenka. | Пачаму? Мне ўсягда нравіўся Лукашэнка. [pachamu] [mnye usyahda nraviusya lukashenka] |
| Ah-ah-ah! It hurts! Yes, I'm a spy, only don't hit my kidneys! | А-а-а! Больна! Да, шпіён я, шпіён, толька па почках ня бійця! [a] [bolna] [da shpiyon ya shpiyon tolka pa pochkakh nya biytsya] |
| Why are you taking out my laces/belt/tie? | Зачэм вам маі шнуркі/ рамень/галстук? [zachem vam mai shnurki/ ramyen/halstuk] |



**IN AKRESTSIN ST., 10**

**НА АКРЭСЬЦІНА, 10**

| | |
|---|---|
| Hello! I'm a political prisoner. | Здраўствуйця! Я паліцічаскі. [zdraustvuytsya] [ya palitsichaski] |
| Could you show me how to wash off/drink water? | Вы не падскажаце, як тут змыць/папіць вады? [vy nye patskazhatsye yak tut zmyts/papits vady] |
| You are yourself the Hamburger cock! | Сам ты пятух гамбурскі! [sam ty pyatukh hamburski] |
| I declair a hungerstrike/ a dry hungerstrike. | Я аб'яўляю галадоўку/сухую галадоўку. [ya abyaulyayu haladouku/ sukhuyu haladouku] |
| Tell me will some food be given today? Is the «lyotny» day today? | Скажыце, хаўчык сягоньня будуць даваць? Сягоньня «лётны» дзень? [skazhytsye khauchyk syahonnya buduts davats] [syahonnya lyotny dzyen] |
| Hey, he-goat, back my beefsteak/soup/tea/ macaronis/cigarettes! | Эй, казёл, аддай маю/мой/ мае катлету/суп/чай/ макароны/ цыгарэты! [ey kazyol adday mayu/moy/ maye katlyetu/sup/chay/ makarony/tsyharety] |
| Let's play cards/cuntlouse/ chess. | Можат срэжымся ў карцішкі/мандавошку/ шахматы? [mozhat srezhymsya u kartsishki/mandavoshku/ shakhmaty] |




**AT THE RAILWAY STATION/ AIRPORT**

**НА ВАКЗАЛЕ/ У АЭРАПОРЦЕ**

| | |
|---|---|
| When does the nearest train/plane go/fly away to Berlin/Paris/Terespol? | Калі адыходзіць/адлятае бліжэйшы цягнік/самалёт на Бэрлін/Парыж/ Тэрэспаль? [kali adykhodzic/adlyataye blizheyshy tsyahnik/ samalyot na berlin/parysh/ terespal] |
| Where can I buy some American dollars? | Дзе я магу набыць даляры? [dzye ya mahu nabyts dalyary] |
| Which electric trains are leaving for West? | Якія ёсьць электрычкі на заходні напрамак? [yakiya yosts elyektrychki na zakhodni napramak] |
| It is not true what you're telling about Lukashenka. He wishes goodness and happiness for everybody. | Дарма вы так на Лукашэнку. Ён жа ўсім дабра жадае. [darma vy tak na lukashenku] [yon zha usim dabra zhadaye] |

# Пазьняк *пазбаўлены* грын-к*а*рты

## Да такога рашэньня Кангрэс ЗША падштурхнула антыдзяржаўная дзейнасьць Зянона Пазьняка падчас ягонага побыту ў Штатах

«Пазьняк у Варшаве!» — гэтая навіна на пачатку вясны 1998-га ў імгненьне вока абляцела ўсе апазыцыйныя тусоўкі краіны. Радасьці дэмакратаў не было межаў. Пікейныя жылеты з Варвашэні-8 адразу інтэрпрэтавалі факт пераезду кіраўніка БНФ у сталіцу Польшчы зь Нью-Ёрку як пачатак новага рашучага наступу на рэжым Лукашэнкі. На офісе БНФ толькі й чулася:

— А вы чулі - Зянон ў Варшаве!.

— Натуральна, а як вы думаеце нашто ён пераехаў?

— Зразумела, не для таго, каб дамовы з Антановічам падпісваць.

— Так, Зянон - гэта галава! Я б яму ніколі пальцы ў рот ня клаў...

Аднак на хвалі эмоцыяў і энтузіязму ад надыходзячага вызваленьня неяк засталося незразумелым, чаму ўсё ж Зянон Станіслававіч быў вымушаны пакінуць горад Вялікага Яблыка. Што прымусіла лідэра БНФ бегчы адтуль, дзе для дэмакрата, можна сказаць, сапраўдны вырай? Хіба яшчэ О'Генры не казаў, што дурняў з грашыма ў Нью-Ёрку больш чым дзе ў сьвеце і круціць уолт-стрытаўскіх лахоў адно задавальненьне.

Зянон сьцьвярджае, што яму абрыдла кока-кола (ён так ані разу не перамог у конкурсе «Паглядзі пад крышачку»), і дакан аў сусед зьверху Ды Капрыё. Апошні штодня гуляе ў «Тытанік» і залівае ніжнія паверхі. Пры гэтым ляўрэат «Оскару» час ад часу тэлефануе да Пазьняка і нахабна пытае, які узровень вады ў каютах трэцяй клясы. Адмазка Пазьняка можа задаволіць каго заўгодна, але толькі ня нашу рэдакцыю, якая мае сэнбэрнарскі нюх на палітычныя скандалы.

Як мы і меркавалі, сыход у Польшчу мае куды больш сур'ёзныя падставы. Нью-Ёрцкі эпізод біяграфіі лідэра БНФ заслугоўвае падрабязнага аналізу. У хуткім часе пасьля таго як эміграцыйная служба ЗША пагадзілася выдаць грын-карту двум шматпакутным барацьбітам за дэмакратыю з далёкай Беларусі - З.Пазьняку і С.Навумчыку, у гарадзкім дэпартамэнце паліцыі значна прыбавілася працы. Абаронцы правапарадку былі ўстрывожаныя актывізацыяй раней невядомай банды беларускамоўных вулічных хуліганаў. Новы ганг пачаў тэрарызаваць раён Брайтан-Біч, дзе звычайна селяцца эмігранты з Расеі. Кожны вечар на вуліцах дыстрыкту зьяўляліся тры дзецюкі ў беларускіх нацыянальных кашулях з бэйсбольнымі бітамі. У крымінальным сьвеце іх ведалі пад мянушкамі Дазьняк, Задуўчык і Нагруднік. Першымі ахвярамі наваяўленых хуліганаў сталі мірныя нэгры, якія звычайна стаялі на валюце каля мясцовага рынку «Маскітаўка» і прапаноўвалі мінакам нямецкія марачкі, канадскія даляры і расейскія рублі. Падваліўшы да аднаго з такіх валютчыкаў, беларуская шпана брутальна шукала завязак: «А ну скажы, як будзе гальштук па-беларуску?» «Гальштук, напэўнае», - асьцярожна адказваў мірны чарнаскуры хлопчык. У наступнае імгненьне небарака падаў на асфальт пад ударамі бэйсбольных дубінак і каваных ботаў. Зрабіўшы сваю крывавую справу хуліганы хутка зьнікалі ў батальёне вулачак і правулкаў Брайтана, не пакідаючы паліцыі аніякага шанцу.

Яшчэ адной забавай хуліганаў стала разьбіваньне вітрынаў магазінаў, буцікаў і рэстаранаў, што мелі шыльды або рэкляму на расейскай мове. Аргумэнтам хуліганскіх учынкаў служыла тое, што расейскамоўныя надпісы не зразумелыя звычайным амэрыканцам. «Размаўляйце на чалавечай ангельскай мове»— патрабавалі дазьнякоўцы і шпурлялі ў вітражы каменьні і кавалкі асфальту.

Празь нейкі час, калі жыхарам раёну канчаткова абрыдлі абасцаныя ліфты і разьбітыя паштовыя скрыні, паліцыя пачала варушыцца і затрымала хуліганаў, якія як раз былі за сваёй мокрай справай. Імі, як вы ўжо здагадаліся, былі нашы добрыя знаёмыя — беларускія «дысыдэнты». Аднак пасадзіць парушальнікаў закону ў Сынг-Сынг аказалася немагчымым. На дапамогу арыштаваным адразу прыехала цэлая каманда кангрэсмэнаў-рэспубліканцаў, якія хутка выцягнулі беларускіх дэмакратаў з-за кратаў. Кручкатворы Доўла давялі сьледчым, што Пазьняк, Запруднік і Навумчык - непаўнагадовыя асобы (усе пражываюць у ЗША менш за 18 гадоў). Таму справа абмежавалася тым, што беларусаў паставілі на ўлік дзіцячага пакою паліцыі.

Усё добра, што добра заканчваецца, аднак атрыманы ўрок павінен быў, як здаецца, ацьвярэзіць бурную




Амэрыканскія кангрэсмэны былі настолькі ўражаныя падрыўной дзейнасьцю Зянона Пазьняка, што ў Сэнаце паставілі пытаньне аб пазбаўленьні БНР статусу Вольна Далучанай Тэрыторыі.




Перадвыбарчы плякат Хуткай Нагі на выбарах у рэзэрвацыі штата Мантана. Паводле папярэдніх вынікаў галасаваньня Пазьняк прайграў былому фэрмэру Дэмакратабою.

натуру Зянона Станіслававіча.
Але напрыканцы лета 1997-га ён знайшоў сабе новую цацку - рух індзейцаў... Як сьледзтва, у сьнежні Пазьняка ўжо чакаў новы прывод у паліцыю. Адпаведна пратаколу кіраўнік БНФ стаяў на шухеры, пакуль група актывістаў «Народнага Фронту Апачаў» пад покрывам ночы малявала на помніку Вашынгтону слова «кат». Пасьля гэтага інцыдэнту Зянона панесла. Ён на нейкі час закінуў беларускую справу, і пачаў калясіць па ўсіх індзейскіх рэзэрвацыях і культурных цэнтрах. Узяўшы сабе імя Хуткая Нага, ён выступае ініцыятарам праекту аднаўленьня Племяннога Саюзу Іракезаў і пачынае рэгістрацыю нашчадкаў ягоных грамадзянаў, выдае кнігу «Хуткая Нага. Сапраўднае аблічча.», дзе даводзіць, што Калумб быў расейскім агентам, арганізуе збор подпісаў за адстаўку белага акупанта Клінтана. Натуральна, што хутка яго прызналі фэдэральным індзейскім правадыром і адпаведна прапанавалі сапраўдны чырвонаскуры тытул - Вялікі Салем Хуткая Нага.
Увесну Хуткая Нага сабраў у Арызоне ўсіх рэгіянальных чырвонаскурых лідэраў і прапанаваў аддзяліць штат Нью-Джэрсі ад ЗША, каб у пэрспэктыве стварыць тут незалежную індзейскую дзяржаву. Паўстаньне сэпаратыстаў было прызначана на 26 красавіка 1998г. У гэты дзень была заплянаваная агульнаіндзейская дэманстрацыя ў Вашынгтоне. Каб эфэкт быў большы, з Канады былі запрошаныя тутэйшыя баевікі з «Эскімоскай Нацыянальнай Самаабароны» (ЭНСО). Маніфэстацыя 26 красавіка вылілася ў сапраўдны беспрэдел. Чырвонаскурыя пераварочвалі паліцэйскія машыны, зрывалі дзяржаўныя сьцягі, скандавалі на адрас Клінтана ганебныя лёзунгі накшталт «Чамадан, вакзал, Эўропа». Улады былі вымушаныя ўжыць сілу.
Наступным днём кангрэсмэны пастанавілі стварыць камісію па расьсьледаваньні антыамэрыканскай дзейнасьці З.С.Пазьняка. Калі ФБР капнула глыбей, стала зразумелым, што гаворка ідзе пра глябальную змову супраць амэрыканскіх грамадзкіх інстытутаў...
Дарэчы, на адной з старонак знойдзенага пад час вобыску нататніку Пазьняка было напісана: «У жніўні не забыць узарваць амэрыканскія амбасады ў Судане й Танзаніі». Нажаль тады ніхто не надаў увагі гэтай фразе. Але і без таго довадаў злачынства было дастаткова, каб адправіць Хуткую Нагу на электрычнае крэсла. Кінуліся яго шукаць і — дарма. Зянона і сьлед прастыў (не дарма ж, «Хуткая Нага»).
Мацёры Пазьняк яшчэ ўвечары 26-га пад выглядам тэлезоркі жабяняці Кэрмэта выляцеў у Варшаву, дзе яго чакалі падзельнікі па беларускім руху. Але, здаецца, і на новым месцы Зянон Станіслававіч не зьбіраецца заставацца ўбаку ад сьвятой барацьбы народаў супраць імпэрыяў. Нядаўна яго бачылі на зьлёце кашубскіх аўтанамістаў, дзе ён распаўсюджваў газэтку «Wolny Śląsk» і заклікаў да вяртаньня гораду Гданьску статусу Вольнага Места. ●

# ДОШКА АБ'ЯВАЎ

Цэнтральны РАУС г. Менску зь нецярпеньнем чакае паўналецьця Цімохі Дранчука.

---

Грамадзянства БНР за два тыдні. Тэл: 284 -50 -12

---

Віншую патрыятычную моладзь з 80-мі ўгодкамі Камуністычнага саюзу моладзі. «Малады Фронт»

---

Праца для валанцёраў! Вялікі выбар падпісных кампаніяў: «Хартыя'97», «Адстаўка Прэзыдэнта», «Грамадзянства БНР» ды інш. Тэл. 284-50-12, Управа БНФ.

---

Дарагая Моніка! Віншую з днём твайго шлюбу. Слава Богу! Твой Більлі.

---

Прадам дыванок з выявай правадыра сусьветнай рэвалюцыі У.І. Леніна, 1х0,75 м, б/у, нядорага. Тэл. 229-01-67 Тэрарыст

---

Высотныя работы, рамонт дахаў, комінаў хутка і прафэсійна зробіць кваліфікаваны спэцыяліст-мантажнік. Мірон

---

Маладыя кансэрватары здымуць памяшканьне для правядзеньня тайных сходнякоў. Падвалы па вул. Дарашэвіча не прапаноўваць. Тэл. 284-50-12 Павал.

---

Сада-мазахісцкія ўцехі праз усю ноч! Шырокі набор вычварэньняў на густ кліента (кі). Тэл. 232-27-43, спытаць Спадара «ікС»

---

Прыму на ліквідацыю газэту «Плынь», у любой колькасьці. Крыся.

---

Культурніцкая тусоўка «Будзіны» віншуе сябе з ад'ездам Віталя Рымашэўскага на сваю гістарычную радзіму.

---

Не дажджоцесь! Аляксандар Рыгоравіч.

---

Дам паказаньні ў судзе супраць кіраўніцтва «Чырвонага Жонду» па справе сэксуальных заляцаньняў пры выкананьні службовых абавязкаў.
Першы сакратар

---

## КУПОН

НА АФАРМЛЕНЬНЕ ІЛЬГОТНАЙ ПАДПІСКІ НА ГАЗЭТУ «НАВІНКІ» 50%

ІМЯ ..............................

АДРАС..............................

..............................

АКУРАТНА ВЫРАЖЦЕ ГЭТЫ КУПОН І ДАШЛІЦЕ НА АДРАС: 220085 МЕНСК, п/с 42



© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018

# час *бі*ць у рыла 2

Грымнулі турэмныя дзьверы, бразнулі засовы.
— Сардэчна запрашаем у пекла! — крыва ўсьміхнуўся наглядчык.
Перад вачыма Савянкова адкрыўся змрочны від камэры, якая на бліжэйшыя 30 гадоў мусіла стаць яму домам. Камэра — бэтонны мяшок, які асьвятляўся скупым праменчыкам сьвятла, што нясьмела прабіваўся праз адтуліну квадратнага вакенца. На сьценах камэры сьвятло праменчыка ледзь намацвала абрысы крывых літараў. Савянкоў зь цікавасьцю прымружыў вочы, намагаючыся разабраць крывавыя надпісы, зробленыя ягонымі папярэднікамі. «Мураўёў-пядрыла. Яська-гаспадар з-пад Вільні 3.2.1863.», «Феликсъ Д. былъ здесь. Долой самодержавіе! 3.4.1904», па-літоўску «Няхай жыве свабодная Літва і прэзыдэнт Сьмятона! Адамкус — лясны брат 2.8.1945», і нарэшце амаль сьвежы «Вильнюс был, есть и будет советским. Перв.Секретарь КПЛ тов. Рубикс».
На земляной падлозе тлустыя пацукі, аблізваючыся, зь цікавасьцю пазіралі на новага суседа. Адзіная жывая маса клапоў, прусакоў, мух і мурашоў хаатычна карпашылася па кутах, абглодваючы нейкія шкілеты. Ад такога злавеснага эцюду нават халаднакроўны Савянкоў, які бачыў у жыцьці ўсякае, быў на нейкія долі сэкунды апанаваны гіпнатычным жахам. Патустароньні голас турэмшчыка вывеў яго са здранцьвеньня:
— Распалагайся! Мы навучым цябе паважаць законы дэмакратычнага грамадзтва. А пакуль рыхтуйся да самага жудаснага. Зараз прыйдуць ЯНЫ!

**«Што могуць ведаць мае падзельнікі адносна майго выратаваньня?.. Так! Месца апэрацыі зьмяніць нельга!..»**

*1*

Дзьверы з грохатам зачыніліся. Трохі памарудзіўшы, Савянкоў рушыў у цемру камэры й прайшоўся ўздоўж шэрагу пяціпавярховых нараў. Заняўшы лепшы ложак каля вакна, ён акуратна скінуў на падлогу нечыя рэчы, якія чамусьці ляжалі тут. Нарэшце, ён атрымаў магчымасьць крыху падумаць над сытуацыяй. Сытуацыя ж безь перабольшаньняў была складанай. Турма Лукішкі, куды Савянкова на вырак суда ўпяклі на 30 гадоў, славілася сваім бязьлітасным унутраным распарадкам, брутальнымі наглядчыкамі, мінімальным працэнтам выжыўшых.
«Што могуць ведаць мае падзельнікі адносна майго выратаваньня? Час апэрацыі? Не! Падрабязнасьці апэрацыі? Таксама не... Можа месца апэрацыі?.. Так! Месца апэрацыі зьмяніць нельга! Менавіта, трэба, каб...» Невясёлыя думкі «крэпкага беларускага арэшка» перарваў шум у калідоры — гэта вярталіся яны, сукамэрнікі Савянкова.
Дзьверы распахнуліся, і ў камэру ўваліўся гаманкі натоўп стомленых і запыленых рэцыдывістаў, забойцаў і гвалтаўнікоў, якія вярталіся з каменаломні. Убачыўшы навічка, народ ад нечаканасьці змоўк. Настала напружаная цішыня. Толькі пацукі, якія не прасеклі ўсёй складанасьці моманту, шуршалі сваімі хвастамі.
Вочы вязьняў літаральна сьвідравалі Савянкова. Позірк Гены сьлізнуў па тварах зэкаў, большасьць зь іх былі яму знаёмыя: шмат каго ён уласнаручна арыштаваў ды ўпёк сюды. «Вось дзе б, каб ведаў, саломкі пасьцяліў,» - мільганула была думка.
— Братцы, дык гэта ж мянцяра! — візгнуў раптам адзін з зэкаў. Натоўп гнеўна завуркатаў і пасунуўся да Савянкова. У руках заблішчэлі заточкі. Наперад высунуўся агромны атамны бамбіза зь перакошаным тварам.
— Гэй, жывёліна, ты нашто мае рэчы скінуў?! Табе не здаецца, што тваё месца на парашы?!
Гэта быў Вітаўтас Каўнаскі, злавдзей і патрашыцель, былы сакратар Каўнаскага абкаму піянэрскай арганізацыі Літвы. Савянкоў адразу пазнаў яго. Тры гады таму беларускі Каломба бліскуча раскруціў клубок злачынстваў, зьвязаных з гвалтаваньнем і расчляненьнем дзеячоў «Саюзу Айчыны — Кансэрватараў Літвы». Арганізатарам злачынстваў аказаўся якраз той самы чалавек, які зараз стаяў перад Савянковым і, чухаючы сваё ахілесавы грудзі, напружана ўспамінаў падзабытую за доўгае сядзеньне тэхналёгію разьдзелкі трупаў.
Атмасфэра напружылася да максымуму. Усё вырашалі сэкунды.
Савянкоў ускочыў на мэталічны стол, адфутболіў чайнік і інстынктыўна разарваў на сабе майку. «Галоўнае не забіць больш за дваіх», - падумаў Гена, наносячы Вітаўтасу свой каронны ўдар нагой у вобласьць паху.

*2*

Прэзыдэнт Адамкус няпэўна ўзяў у рукі газэту, якую яму толькі што падсунуў Старшыня Службы Бясьпекі Літоўскай Расы Румшыс.
— Ну, «Хабіхкі» нейкія...
— Не «Хабіхкі»! «НАВІНКІ»!!!
Адамкус, усё яшчэ не ўрубаючыся, пакруціў газэту.
— Гы, якія нігеры прыкольныя...
— Ды не сюды глядзіце, а во!
Румшыс разгарнуў газэту на развароце.
— Як?!. Адкуль у іх... Хто дапусьціў!.. Хто да...
У сэрца Адамкусу нешта рэзка кальнула, вусны ліхаманкава хапалі паветра. Няма чаго казаць, добрая спадчына засталася ад Бразаўскаса! Як можна было зразумець з артыкулу ў бульварнай беларускай газэтцы, у краіне беспакарана дзейнічае разгалінаваная крымінальна-палітычная групоўка беларускай мафіі, што падтрымліваецца звонку. Нават арышт і пакараньне яе лідэра Савянкова не далі пазытыўных вынікаў. Але ён, Адамкус, ня будзе як ягоны папярэднік сюсюкацца і міндальнічаць з ворагамі нацыі. Хіба ён не круты лясны брат? Хіба за ім не стаіць NATO?! Нарэшце, чаго баяцца, калі кішэню адцягвае пашпарт грамадзяніна ЗША і, калі што, заўсёды можна зрабіць ногі.
— Зьбірайце нараду Рады Бясьпекі! Жыва!!!

*3*

Генадзь Савянкоў сядзеў на нарах і думаў. Пасьля гэтага выпадку з Каўнаскім і купкай небаракаў, што патрапілі пад гарачую руку, сукамернікі з павагай называлі яго Валерам.

Гена-«Валера» томна пачухаў грудзі. Сёньня дакладна няма чаго было рабіць, і ён з сумам пазіраў у столь.

— Гэй, Чэрап, колькі пахану да волі засталося?

— 29 гадоў 11 месяцаў 154 дні 7 гадзінаў і 24 хвіліны, Валеран, — ускочыў з нараў мясісты дзяцюк і пасьпяшыў дадаць: — Але праз чатыры гады будзе амністыя. Мля буду — вызваляць за добрыя паводзіны!

Валера яшчэ раз перачытаў факс ад маркіза Кузьнечука-Сьветлагорскага, які ўчора таемна перадаў яму начальнік турмы.

«...Тут, на волі, моцна штарміць. Баімся, што ўсе пойдзем на дно. Прыяцель-та наш, Зянон, па хваробе звольніўся...»

«Так, безь мяне яны не разьбяруцца. Трэба хутчэй на волю.» Савянкоў заглыбіўся ў свае думкі, але ведаў, што роўна праз дваццаць хвілінаў ён падымецца й дасьць «пілюлей» першаму хто патрапіцца. Гэта была звычка, выпрацаваная ў яго гадамі...

*4*

Экстраная нарада Рады Бясьпекі Літвы трывала вось ужо сёмую гадзіну. У прысутнасьці прэзыдэнта Адамкуса і самых высокапастаўленых асобаў краіны ішла распрацоўка апэрацыі, ад посьпеху якой відавочна залежаў будучы лёс гэтай маленькай балцкай рэспублікі.

— Я думаю, прапанова старшыні Службы Бясьпекі Румшыса вартая ўвагі, — чарга выказаць меркаваньне наконт праекту апэрацыі нарэшце дайшла да прэзыдэнта. — Плян закіду нашага чалавека ў стан беларускай апазыцыі сапраўды файны. І са сьледчым экспэрымэнтам няблага прыдумана. Вы ўжо прадумалі, каму можна даручыць выкананьне гэтага заданьня?

— У нас ёсьць правераныя людзі, — Румшыс дастаў пачак фотакартак. - Я магу парэкамэндаваць вось гэтых. Ён выбраў тры фотакарткі і падаў іх Адамкусу. Прэзыдэнт угледзеўся ў твары прапанаваных кандыдатур і адразу адсунуў дваіх.

— Ну і рожы! Дзе вы толькі бярэце такіх?

— Гэта Дубавецкіс, мянушка «Рэдактар», і Жукас, мянушка «Заснавальнік». А што наконт рож... Вы ж ведаеце, нармальныя беларусы пагалоўна атручаныя камуністычнай прапагандай, верныя прэзыдэнцкаму курсу і звычайна адмаўляюцца супрацоўнічаць са шпіёнскімі цэнтрамі. Прыходзіцца мець справу з усялякімі маргіналамі — унукамі кулакоў, родзічамі паліцаеў, амбіцыйнымі журналістамі.

— Я думаю, гэты мардаты падыйдзе, — перабіў суразмоўніка прэзыдэнт і падняў апошнюю фотакартку.

— Алдрюс Мяльнiковас, мянушка «Кантрабандыст», — адрапартаваў Румшыс, зазірнуўшы ў свае паперы.

— А легенда?

— Не падкапаесься. Мы закінем яго ў Беларусь у якасьці барда. Зараз у разьведшколе Мяльнiковас бярэ ўрокі ігры на гітары. Каб увогуле камар носу не падтачыў, перададзім яго беларускім пагранцам як парушальніка мяжы. Яго згодна іхным законам патрымаюць колькі месяцаў у турме, затое потым, калі ён паспрабуе ўвайсьці ў кантакт зь беларускай апазыцыяй, ніякіх падозраньняў наконт ягонай асобы ня будзе. А далей Вы ўжо ведаеце: наш агент выдае сябе за сукамэрніка Савянковаса і прапануе ягоным беларускім сябрам вызваліць свайго корыша падчас сьледчага экспэрымэнту, які нібы хутка адбудзецца на вежы Гедыміна. Савянкоўскія хаўрусьнікі безумоўна клююць на гэтую нажыўку, едуць у Вільню, дзе іх ужо чакае наш АМАП. Такім чынам, уся крымінальная групоўка Савянковаса трапляе ў нашыя рукі. Сам Савянковас падчас апэрацыі,.. так бы мовіць, нечакана раптам... Ну разумееце, шальная куля, машына без тармазоў... Ці мала што? А потым нэкралёг у газэце «Рунь». І любімая Бацькаўшчына можа спаць спакойна!



Эмацыйны маналёг старшыні Службы Бясьпекі ня мог не зрабіць уражаньня на прысутных. Адамкус не ўтрымаўся ад пахвалы.

— ОК! — сказаў ён на незразумелай амэрыканскай мове. Прысутныя зашуршалі слоўнікамі.

*5*

Прыпыніўшыся каля абшарпанага будынку №8 на вуліцы Варвашэні, Алдрюс Мяльнiковас яшчэ раз зьверыў адрас па паперцы. «Так, быццам бы ўсё сходзіцца: міліцэйская акадэмія справа, сьцяг з крыжам над уваходам. Малайцы разьведчыкі, прафэсійна спрацавалі. Вось яна, маліна! Цяпер галоўнае ня здрэйфіць». Алдрюс зрабіў зьверскую рожу і штурхнуў цяжкія дзьверы. Сьвятло паласнула ў вочы. Гэта быў тыповы бандыцкі прадбаньнік са стойкай, стэндамі, антыдзяржаўнай літаратурай на продаж. Тут жа за стойкай сядзеў малады хлопец у вялікіх акулярах і падлічваў свой IQ згодна тэсту Севярынца «Беларушчына».

— Так, 7 пунктаў. «Вы — Цімоха Дранчук. Каб стаць прэзыдэнтам Рэспублікі Беларусь, Вам трэба яшчэ 89 пунктаў».

Хлопец брудна вылаяўся і падняў вочы на Алдрюса.

— Табе чаго, сучы твой рот?

Алдрюс сплюнуў і, на ўсялякі выпадак, ашчэрыўся.

— Не бяры на понт. Дзе пахан?

— Пахан, гаворыш... Так-так, — недаверліва сказаў хлопец, хітра бліснуўшы акулярамі, і націснуў пад сталом нейкую кнопку. Алдрюс зразумеў, што нарываецца, і пасунуўся бы́ў да дзьвярэй.

— Я лепш заўтра да вас падыйду, або праз «імэйл» закантачым. Бывайце здаровы.

— А цябе, мусар, ніхто не пытае. Топай проста, — Алдрюс адчуў халодны ствол малакалібэрнай вінтоўкі на сваёй шыі. Ззаду стаяў малы, чыю фотакартку Алдрюс ня раз бачыў у картатэцы ЦРУ, ФБР, ФСБ... У мазгах аўтаматычна пракручваліся ролікі. «Расшукваецца небясьпечны беларускі злачынца Лі Харві Скочка. Асаблівыя прыкметы: майстар двубою, прафэсійна валодае пнэўматычнай зброяй».
Алдрюса запіхалі ў вузкі калідор, што вёў у вялікую залю. Там, у канцы пакою за сталом, насьпех накрытым газэтамі «Маладзёвы весьнік» і наўсьцяж застаўленым напаўпустымі бутэлькамі гарэлкі, сядзелі некалькі чалавек. Гэта быў сходняк, на блатной мове — «рада». А вось і Сіпаты, які ласкава ціскаў у руках фігурку «яські».
«Гэты хутчэй за ўсё ў іх за старшога, і знак іхны бандыцкі - фуфло з арматурай!» — Алдрюс зрабіў намаганьне супакоіцца й пачаў.
— Значыць справа такая, я ад вашага кента ў турме вестачку прытараніў. Мы зь ім тры месяцы на адных нарах валяліся.
— А ты хто сам такі будзеш, мілы чалавек? - Сіпаты недаверліва пагуляў жалваком. - Ёсьць у нас падазрэньне, што ты стукачок!
— Я яго шчэ ў прадбаньніку зрысаваў! - візгнуў Цімоха з-за пляча Сіпатага.
— Засохні, Дранік! - буркнуў той і перавёў халодны позірк на Алдрюса.
— Я?.. - Алдрюс разгубіўся і няпэўна прамямліў: - Я бард... Я «Мурку», як тэй таго, магу...
— Ты тут гарбатага ня клей! «Мурку» любы фраер стрынькае, а ты збацай-ка нам «Мы выйдзем шчыльнымі радамі»!
Алдрюс пакрыўся халодным потам, ліхаманкава ўзгадваючы, чаму яго вучылі ў разьведшколе. «Здаецца, на матыў кайзэраўскага гімну, але на паўтоны ніжэй і праз фа дыез». Алдрюс зацягнуў, яўна фальшывячы ў трэцім радку й пастаянна зьбіваючыся на матыў «Цячэ вада ў ярок». Але, дзякуй богу, з прысутных ніхто дакладна ня ведаў словаў гэтага нацыяналістычнага гімну.
— Дык ты ж вундэркінд! - Цімох ускочыў і стаў крыва падпяваць: — «Кольцы і браслеты, плацця і жакеты...» Слухай! I што гэта я ў цябе такі закаханы!
— Ну што, прысядзь, Андрэйка! - Сіпаты яўна быў задаволены. Ён наліў поўную шклянку гарэлкі й пасунуў яе да Алдрюса. - Ды ты пі. Не саромейся.
Алдрюс кульнуў шклянку й закусіў амэрыканскай тушонкай. Сіпаты з замілаваньнем абмацваў яго цікаўным позіркам.
— А ты як у камэру да Пашкі трапіў-та? Як з кічы яго здымаць будзем?
Алдрюс папярхнуўся. «Пашка? Які Пашка?! Здаецца, бос казаў пра Генку... Ці Валерку?..». Алдрюс хвіліну знаходзіўся ў няпэўнасьці, але алькаголь ужо рабіў сваю эцілавую справу. «А-а-а... Хто іх ведае зь іхнымі блатнымі паганялами...» I Алдрюс распачаў свой расказ, які паўтары апошніх месяцы завучваў на памяць... ●

*(Працяг будзе)*

# АПРАНІ ДЭМАКРАТА



**Дзёма Кратаў** - тыповы ўдзельнік апазыцыйных мерапрыемстваў, шчыры прыхільнік ідэі адраджэньня Бацькаўшчыны.

## Мілы дружа!

Перад табою калекцыя зімовага сэзону 1998-1999 г., распрацаваная спэцыяльна для беларускай апазыцыі адным знакамітым куцюр'е. Проста, элегантна, практычна. Зьвярніце ўвагу на клясычны пакрой вопраткі, ізноў у модзе мадэлі 1937 году – яны прыдатныя для працы ў любым кліматычным поясе, асабліва ў паўночных шыротах. Яны дазваляюць лёгка рухацца, насіць цяжкасьці, зьмякчаюць удары прыкладаў і ўкусы сабак. Гарантыя ад 3 да 10 гадоў агульнага рэжыму.

**Шапка-ўшанка** з натуральнай чэбурашкі.



**Кірка**. Выкарыстоўваецца на каменаломнях або рудніках.

**Целагрэйка ватная**. Выдаецца адзінаразова. Аснаджаная кішэнямі і падкладкамі, дзе можна хаваць сухары, махорку, чай, сотавы тэлефон і г.д.

**Рукавіцы**. Калі Вы чыталі «Адзін дзень Івана Дзянісавіча», Вы павінны ведаць, куды іх апранаць. Адным рухам рукі яны ператвараюцца ў хатнія тапачкі.



**Штаны ватныя.** Не здымаюцца ні ўдзень, ні ўначы. Моднікі носяць іх раскляшонымі або завужанымі - на густ. Зараз у модзе сшытыя штаніны.



**Рыдлёўка** сыстэмы «лапата». Бярэш болей - кідаеш далей.

**Валёнкі** дэмісэзонныя. Мадэль 1826 году «Дзекабрыст». Калошы можаце замовіць у Беларускім Хельсінцкім Камітэце.

©Designed by Maryska, 1998



© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018



Газэта «Навінкі»:

# Даверся! Табе спадабаецца!

Абсалютна незалежная газэта "НАВІНКІ" Заснавальнік Павал Каларадзкі; галоўны рэдактар гер Нямчук; пры творчай падтрымцы менскага контар-культурнага бомонду. За недакладнасьць пададзеных матэрыялаў рэдакцыя адказнасьці не нясе. Тыраж 299 экз. На правах рукапісу.